

№ 45 (206)
Снежань 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года





Жыву ў Беларусі – і тым ганаруся

# Раяцца старшыні акцыі

***Такі семінар быў нала-джаны ўпраўленнем адукацыі Мінскага аблвыканкама і аддзелам адукацыі Дзяржынскага райвыканкама 9 лістапада. Яго мэтай было азнаёміцца з вопытам работы ўстаноў адукацыі Дзяржынскага раёна, абагульніць яго і акрэсліць новыя арыенціры.***

Начальнік аддзела арганізацыйна-метадычнага забеспячэння турысцка-краязнаўчай і эколага-натуралістычнай работы вучэбна-метадычнай установы «Мінскі дзяржаўны абласны вучэбна-метадычны кабінет» З. Міхайлава грунтоўна, з дапамогай відэаілюстрацый азнаёміла прысутных з тым, што за год зроблена ў Дзяржынскім і іншых раёнах вобласці па практычным ажыццяўленні названай акцыі, якая мае вялікае выхаваўчае значэнне. Не можа не ўразіць колькасць праведзеных экскурсій і турыстычных паходаў ды злётаў, адкрыцця школьных музеяў рознага накірунку і пачатку работы розных гурткоў, шматлікіх конкурсаў, дагледжаных помнікаў удзельнікам Другой сусветнай вайны, створаных відэафільмаў і інш. Цяпер, падкрэсліла дакладчыца, неабходна пачаць асвойваць і іншыя віды работы ў гэтым накірунку – напрыклад, скласці тапаграфічныя карты сваёй мясцовасці з пазначэннем значных і малавядомых гісторыка-культурных аб'ектаў, каб на аснове іх аформіць адпаведную карту Мінскай вобласці, а таксама шырэй разгарнуць працу па напісанні кнігі «Жыву на Міншчыне і ёй ганаруся». Таксама падкрэслівалася важнасць далейшага правядзення конкурсаў на лепшы літаратурна-мастацкі твор, на лепшую створаную мясцовымі творчымі сіламі песню. Дырэктар РЦТіКНМ С. Мітраховіч у сваім выступленні запыніў увагу на правядзенні акцыі «Жыву ў Беларусі – і тым ганаруся» ў іншых абласцях, адзначыўшы тыя моманты, з якімі мінчане выглядаюць годна. Пасля рэй павялі гаспадары, шчодра дзелячыся як сваім вопытам напрацовак, так і сваімі турботамі.

*Дзяржынскі раённы цэнтр дзіцячай творчасці.* Яго дырэктар Н. Яшчук сярод розных відаў работы з навучэнцамі выдзеліла ўжо наладжаную працу Дзіцячага раённага парламента, які ў многім мае правы самакіравання і з удзелам педагогаў, бацькоў, грамадскасці вырашае праблемы, што хвалююць сучаснае маладое пакаленне. Юныя кіраўнікі па-свойму дапоўнілі гэты расказ, паказалі, што, як тое і прадугледжана іхнім статутам, заўважна развіваюць у сабе лідэрскія здольнасці. Была арганізаваная выстава творчых устаноў адукацыі раёна ў межах акцыі.

У ДУА *«Гімназія № 1 г. Дзяржынска»*, якая сканцэнтроўвае вялікую ўвагу на экалагічным выхаванні і адукацыі, удзельнікаў семінара запрасілі наведаць экалагічны музей раёна, дзе ёсць унікальныя і для Беларусі экспанаты. На выставе «Шчодрыя дары восені» ўсе былі ўражаныя колькасцю і якасцю атрыманых вучнёўскай працай садавіны і гароднiны (ёсць, напрыклад, такія гарбузы, што некаторыя з іх не кожны і сталы чалавек падыме і ўтрымае). Былі запамінальныя невялікі канцэрт вучнёўскай мастацкай самадзейнасці, выступленне юнага паэта – пераможцы конкурсу вершаў, прысвечаных маці.

Наведванне ДУА *«Вялікасельскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад – сярэдняя агульнаадукацыйная школа»* пачалося знадворку – гэта значыць, з падыходу да школы. Паколькі час быў даволі глыбокаасенні, не было ўжо кветак і зеляніны, але сярод тонкай скарыначкі снегу кідка выдзялялася кампазіцыя камянёў. Яны, сабраныя сіламі ўсёй вёскі, апрацаваныя прафесійным мінскім мастаком і вучнямі (на іх адмыслова размешчаны алфавіт і інш.), уражваюць прастатой і сімвалічнай задумай. Пасля дырэктар школы В. Залуцкі і намеснік дырэктара ўстановы Н. Макась патлумачылі па просьбе прыезджых сімвалізм, адлюстраваны ў каменнях, выказалі свае меркаванні па педагагічнай тэхналогіі як фактары фармавання грамадска-патрыятычнага выхавання вучняў, пра развіццё актыўнай жыццёвай пазіцыі і творчага патэнцыялу дзяцей сродкамі музейнай работы. Неўзабаве ў пэўнай меры пабачыць яе на справе можна было ў школьным музеі.

(Заканчэнне на стар. 2)

> **Ідэал – гэта пуцяводная зорка. Без яе няма накірунку, а няма яго – няма жыцця**
>
> *Л. Талстой*

## На тым тыдні...

• **22 лістапада** ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстаўка архіўных дакументаў савецкіх органаў дзяржаўнай бяспекі «Рассакрэчаная памяць». Яна прысвечаная адной з самых трагічных старонак гісторыі ўкраінскага народа – Галадамору 1932–1933 гадоў. Пасля паказу ва ўсіх абласных цэнтрах Украіны выстаўка дэманструецца і на Беларусі.

• **24 лістапада** адбыўся X з'езд грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ). Дырэктар АПБ Віктар Фянчук паведаміў пра завяршэнне інвентарызацыі тэрыторый, важных для айчынных птушак. Стала таксама вядома, што сусветнай арганізацыяй «BirdLife International» на тэрыторыі Беларусі вызначана 43 аб'екты, што маюць значэнне для існавання птушак. Акрамя таго было абвешчана, што птушкай Беларусі-2008 стане вялікая белая чапля.

• **24 лістапада** ў старадарожскім музеі «Фонд Анатоля Белага» адкрылі памятны знак «Героям Слуцкага збройнага чыну». Знак усталяваны на даху музея і ўяўляе сабой шасціканцовы крыж Ефрасінні Полацкай, на які накладзена выява паўстанца, што, паміраючы, захінае герб «Пагоня». У аснове знака – надпіс «Тым, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», які быў вышыты на штандары паўстанцаў. Аўтары – старшыня мінскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба «Спадчына» Анатоль Белы і мастак Уладзімір Каравацкі. Таго ж дня адбылася і паездка па месцах славы Слуцкага збройнага чыну.

• **25 лістапада** ў Барысаўскім раёне на могільніку вёскі *Студзенка* (левы бераг ракі Бярэзіна) адбылося перазахаванне рэштак 223 французскіх салдатаў, загінулых у 1812 годзе. Цырымонія прымеркавана да 195-й гадавіны пераправы напалеонаўскіх войскаў праз Бярэзіну.

• **26 лістапада** ў мінскім Палацы мастацтваў адкрылася мастацкая выстава, прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Напярэдадні XIX з'езда Беларускага саюза мастакоў (*БСМ*), які адбудзецца 28 лістапада, у трох залах палаца айчынныя майстры прадставілі сотні твораў жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У выстаўцы ўдзельнічаюць палотны Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Леаніда Шчамялёва, Гаўрылы Вашчанкі, Уладзіміра Басалыгі, Эдуарда Агуновіча, іншых славутых майстроў.

• **27 лістапада** Польскі Інстытут у Мінску і Нацыянальная бібліятэка Беларусі адкрылі выстаўку рэпрадукцый твораў Напалеона Орды са збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве. Праца экспазіцыі працягнецца да 29 снежня.

Таго ж дня Літаратурны музей Максіма Багдановіча праводзіў Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Максім Багдановіч і яго эпоха». Падрабязнасці мерапрыемства – у наступным нумары.





**Публікацыя закранула чытача**

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Краязнаўчай газеты»!*

*Спяшаюся выказаць вам шчырую падзяку за магчымасць пазнаёміцца з навуковай працай пра армію Андэрса, дакладней, пра ўдзел у ёй ураджэнцаў Беларусі.*

*Мне, чалавеку сталага ўзросту, з вялікім педагагічным стажам, дзякуючы працы даследчыка Б. Бароўскага толькі цяпер стала зразумела ўсё тое, пра што, як кажуць, «чула звон, ды не знала, дзе ён». Са здзіўленнем даведалася, што перамовы аб стварэнні польскай арміі ў СССР пачаліся адразу ж пасля нападу фашыстаў на Саюз.*

*Чытаючы, прыгаворвала: «Як цікава! Як цікава!» Уявіць хоць бы данясенне польскай камуністкі Ванды Барташэвіч. Не магу не працытаваць: «99 % – гэта вызваленыя з турмаў, лагераў і ссылкі. Па займаемай пасадзе ў Польшчы – гэта ваеннаслужачыя, паліцаі, асаднікі, каланісты і г.д. Усе яны сапраўдныя ворагі СССР, гатовыя адпомсціць за свае пакуты... Іх нішто не зменіць і іх неабходна будзе толькі знішчыць».*

*Каментарыяў не трэба.*

*Немагчыма было адарвацца ад апісання баёў пад Монтэ-Касіна. Шчымліва кранула, што генерал Андэрс завяшчаў пахаваць сябе на вайсковых могілках Монтэ-Касіна, побач са сваімі загінулымі жаўнерамі.*

*Горка было даведацца, што 888 вояў, якія вярнуліся ў Беларусь, пасля вайны былі сасланыя ў Сібір і толькі ў 1971 годзе суд СССР спыніў крымінальную справу супраць «андэрсаўцаў».*

*Яшчэ раз шчыра дзякую!*

*Жадаю поспехаў у вашай працы.*

**Яўгенія ЧАПЛІНСКАЯ,**
**в. Літва,**
**Маладзечанскі раён**

## Погляд у заўтра

Традыцыяй стала правядзенне ў Лунінцы навукова-практычных канферэнцый памяці пісьменніка Міколы Калінковіча. Летась праходзіла другая па ліку. А сёлета матэрыялы канферэнцыі пабачылі свет асобнай кнігай – «Лунінецкая памяць. Дадатак 2». Укладальніца Таццяна Канапацкая сабрала пад адной вокладкай унікальныя па сваім змесце аповеды пра гісторыю лунінецкага краю, лёсы яго ураджэнцаў. Адкрывае зборнік замалёўка М. Калінковіча (тады, у 1960-я, ён падпісваўся сваім сапраўдным прозвішчам – М. Калянковіч) «Погляд у заўтра», якая была надрукавана ў свой час у лунінецкай раённай газеце «Ленінскі шлях». А расказвае аўтар пра сваю школьную настаўніцу Любоў Іосіфаўну Сіманаву. Увогуле многія матэрыялы другога выпуску «Лунінецкай памяці» прысвечаны гісторыі педагагічнай справы ў горадзе і раёне. «Жыве на тры краіны, а карані яе – у Лунінцы» – расповед пра Нэлі Маісееўну Рэзнік. Яна ў свой час выкладала рускую мову і літаратуру ў СШ № 2 г. Лунінец, выдатнік асветы БССР, выдатнік асветы СССР.

Скразной тэмай праз усю кнігу праходзіць увага да творчай, краязнаўчай спадчыны М. Калінковіча. У прыватнасці, вучаніца Кацярына Хілюк з 8 «Г» класа СШ № 2 г. Лунінца, разглядае кнігу М. Калінковіча і Л. Літвінчука «Лунінец» – першую кнігу М. Калінковіча. Вось што яна піша напрыканцы свайго доследу: «Аўтар пазнаёміў нас з вядомымі людзьмі, якія сваёй працай стварылі славу Лунінца. Гэтыя людзі – сучаснікі маіх бабуль і дзядуль. Гэта час, калі мае бацькі былі школьнікамі. Кніга стала своеасаблівай "машынай часу" – яна перанесла мяне ў свет невядомых падзей і перажыванняў, якія з'яўляюцца часткай гісторыі Лунінца». Будзем спадзявацца, што акрамя пасажыраў «машыны часу», спраектаванай Міколам Калінковічам, у слыннага даследчыка Лунінеччыны будуць выдатныя вучні, прадаўжальнікі яго краязнаўчай работы.

Сярод аўтараў краязнаўчага зборніка – Надзея Радзіяновіч, Людміла Арэшкавіч, Валерый Вярэніч, Леў Коласаў, Вадзім Катуш, Наталля Казанкова, Алег Анцукевіч. Многія артыкулы належаць пяру Таццяны Канапацкай, якая сваёй грамадскай працай стварае ў Лунінцы адмысловую краязнаўчую атмасферу.

*Кастусь ЛАДУЦЬКА*




# Раяцца старшыні акцыі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Безумоўна, за адзін дзень з пераездамі ў розныя куткі раёна ды з насычанай інфармацыйна-эмацыянальнай праграмай к вечару многія ўдзельнікі семінара, як было відавочна, і прытаміліся. Таму ўжо ў *«Дзямідавіцкі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад – сярэдняя агульнаадукацыйная школа»*, якая спецыялізуецца па паглыбленым вывучэнні мясцовай этнаграфіі, ехалі не зусім бадзёра. Ды ехалі на кірмаш... Вось тут і паказала ўстанова з этнаграфічным ухілам, якой захапляючай магла быць такая старажытная шматлюдная беларуская з'ява – кірмаш, дзе можна было сабраць вялікім гуртам, сустрэць знаёмых, пагаварыць, штосьці выгадна прадаць альбо купіць і назапасіцца ўражаннямі ды эмоцыямі да новага кірмашу! І, ведаеце, хто найперш і найбольш ажывіў усіх, нават самых стомленых? Пяцікласнік! Невысокенькі хударлявенькі, але сапраўдны кірмашовы, як кажуць сёння, менеджэр! Жвавы, вясёлы, гаваркі, жартаўлівы. Разам з дзяўчаткамі падводзіў гасцей-«пакупнікоў» да «прадаўцоў» (а «прадавалі» садавіну і гародніну, разнастайныя стравы, вырабы з дрэва і металу, ткацтва і вышыўкі) і так завабліваў, што нельга было многае не «купіць!». Хтосьці з «пакупнікоў» спрабаваў яго на чымсьці «падлавіць» (ці не завучаны тэкст прамаўляе?) Ды дзе там! Нават на экспромтныя запытанні-шпількі тут жа быў і экспромтны бойкі, дасціпны адказ! А пасля невялікага канцэрта знаходлівы «менеджэр» яшчэ прачытаў такі верш, што у некаторых прысутных ажно слязіна выплыла ад зачаравання!


*Г. Далідовіч і В. Сантаровіч*

Пасля такога ажыўлення ўжо знікла стома, можна было з ахвотай паслухаць паведамленне пра работу ўстановы па праекце «Этнашкола», наведаць музей «Народныя рамёствы Беларусі», тым больш, за гэтым было прагляд- ванне і праслухоўванне спектакля «Жаніцьба Коміна», які быў чарговым модулем (часткай) у ранейшых школьных прадстаўленнях, прысвечаных народным каляндарным святам і гульням.

На заключным *«круглым стале»* выступілі многія старшыні саветаў акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся», далі высокую ацэнку ўбачанаму і пачутаму за гэты дзень на Дзяржыншчыне, падзяліліся вопытам сваёй работы па розных накірунках. Вынікі падвяла З. Новікава. Пасля гэтага ўсіх чакала вячэра з усяго «этнаграфічна-натуральнага»: квасоўкі, салаты з капусты і буракоў, грыбы, рыба, сала і мяса, каўбаскі, «калдуны» з фаршавай і грыбной начынкаю, аладкі з мёдам...

У семінары ўдзельнічаў намеснік галоўнага рэдактара «КГ», член абласнога савета праўлядзення акцыі «Жыву ў Беларусі – і тым ганаруся» Генрых Далідовіч. Ён расказаў пра дзейнасць «КГ», кожны нумар якой прысвечаны роднай краіне, яе гісторыі і сённяшняму дню, падкрэсліў важнасць таго, што аўтарамі матэрыялаў па названай акцыі з'яўляюцца не толькі навукоўцы, настаўнікі, супрацоўнікі музеяў і бібліятэк, але студэнты ды вучні. Падтрымліваючы высокую ацэнку зробленага рознымі ўстановамі Дзяржынскага і іншых раёнаў у справе паглыблення ведаў і выхавання патрыятызму, ён тым не менш выказаў занепакоенасць, мякка кажучы, пэўным раўнадушшам улад і грамадства да карэнняй мовы беларускага народа, у прыватнасці, у справе ўшанавання 125-гадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Г. Далідовіч уручыў сувеніры навучэнцам, якія вызначыліся як здольныя паэты: у гімназіі № 1 – пяцікласніцы Анастасіі Шмея (за перамогу ў конкурсе вершаў, прысвечаных маці), а ў Дзямідавіцкай школе – пяцікласніку-«менеджэру»-паэту Вадзіму Сантаровічу. Яны, як і іншыя навучэнцы, а таксама педагогі былі запрошаны да актыўнага супрацоўніцтва з «КГ».

*Уладзіслаў ЛУКАШЭВІЧ.*
*Фота Ігара ГРЭЧКІ*



**Вадзім САНТАРОВІЧ**

### Лясная кніга

*Аднойчы з татам у нядзелю*
*Мы пагуляць у лес пайшлі.*
*Вось толькі выйшлі на сцяжынку,*
*Сляды звярыныя знайшлі.*

*Мы па слядах жывёл чыталі:*
*Хто бегаў тут, хто тут скакаў і поўз.*
*Не так даўно была тут ліска –*
*Відаць, за зайчыкам прыйшла,*
*Але, нічога не злавіўшы,*
*Галодная спаць ў нару пайшла.*

*Казуля надвячоркам тут скакала*
*І заяц шэры прабягаў.*
*Пра гэтыя падзеі ў лесе*
*Цікава тата расказаў.*

*2007 г.*

### Сняжынка

*Закружылася сняжынка*
*Каля белага куста.*
*Нібы жвавая дзяўчынка*
*Ў карагод пайшла яна.*

*А яе сяброўкі следам*
*Кружаць, кружаць ў вышыні,*
*А затым яны кладуцца*
*Белай коўдрай на палі.*

*2003 г.*

### Маці

*На зямлі няма нікога лепш за маці,*
*Гэта нам жыццё яна дала.*
*Хто спяваў пяшчотна калыханкі?*
*Гэта мама любая мая.*

*А хварэлі мы, не спала ты начамі,*
*Зноў і зноў, матулечка мая.*
*Ўсё жыццё з любоўю, з дапамогай*
*Пройдзеш ты, ласкавая мая.*

*Ды няма на свеце слоў падзякі,*
*Каб табе, любімай, падарыць.*
*Проста моўчкі будзем мы заўсёды*
*Ўсё мацней, мацней цябе любіць.*

*2006 г.*





# Абаронца Варшавы

## Што расказалі старыя фотаздымкі?

*Мінула 68-я гадавіна ад пачатку Другой сусветнай вайны, а мы па-ранейшаму адкрываем новыя імёны нашых землякоў, якія мужна змагаліся з фашыстамі ў розных краінах. Дзякуючы старым дакументам і здымкам, якія прынесла ў гістарычны музей СШ № 3 г. Мёры Дана Янаўна Тычко, мы даведаліся аб нашым земляку, які абараняў Варшаву ў 1939 годзе. Дакументы і здымкі былі з вёскі Рачнёва, належалі сям'і Гяч. Апошняя з Гячаў, Агнешка Зыгмундаўна, памерла, не маючы нікога блізкага. Але дзякуючы руплівасці Д. Тычко гістарычныя крыніцы не зніклі.*



Шмат цікавага было перададзена ў гістарычны музей: здымкі салдатаў Першай сусветнай вайны, атэстаты аб заканчэнні пачатковай польскай школы ў вёсцы Лупаўшчына, пасляваенныя фатаграфіі з жыцця калгаснікаў вёскі Рачнёва. Але паміж некалькіх дзесяткаў дакументаў мне кінуўся ў вочы маленькі і непрыкметны шматок пажаўцелай паперы.

На польскай мове з аднаго боку там было напісана: «Легітымацыя (пасведчанне асобы) Старшы стралок (пехацінец-яфрэйтар) Гяч Браніслаў 23.8.1911 года нараджэння вёска Рачнёва 3 рота, 144 полк 2 батальён, камандзір роты капітан Камінскі. Варшава. 29.9. 1939 год». Надпісы зацверджаны пячаткай батальёна. На другім баку надпіс наступнага зместу: «Сцвярджаю, што Гяч Браніслаў браў удзел у абароне Варшавы. 29.9 1939 год Варшава». Пячатка і подпіс капітана Камінскага.

На аснове іншых здымкаў, успамінаў найстарэйшага жыхара вёскі Аблятова Станіслава Міхайлавіча Кашкура, 1914 года нараджэння, гістарычных даследаванняў аб абароне Варшавы складзены наш аповед.

Бацька Браніслава, Зыгмунд, удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Меў чацвёра дзяцей, якіх звалі Браніслаў, Генрык, Францішка і Агнешка. Сваёй зямлі для вядзення гаспадаркі не хапала, таму ў 1935 годзе Генрык і Браніслаў разам з Казімірам і Уладзіславам Кашкурамі бяруць у арэнду на 1936 год 16,5 га зямлі ў Марыі Абрампальскай. Але хутка Браніслава забіраюць на тэрміновую службу ў войска. Служба праходзіць у Кракаве. Захаваліся фотакарткі, як наш зямляк бярэ ўдзел у гістарычнай падзеі – насыпу вялікага кургана пад Кракавам у гонар памяці Ю. Пілсудскага, здымкі яго з сябрамі каля Марыінскага касцёла, каля крэпасці, падчас абеду і іншыя.

Пасля вяртання з войска ізноў працуе на гаспадарцы, у растэрміноўку набывае ровар: па тых часах гэта быў большы гонар, чым сёння аўтамабіль. Нездарма ёсць здымак, дзе ён з гонарам стаіць са сваёй «машынай». У прадчуванні хуткага пачатку вайны польскі ўрад 23 жніўня пачынае мабілізацыю. Браніслава, які толькі нядаўна адслужыў, прызываюць адным з першых.

Разам са сваім 144-м пяхотным палком ужо 9 верасня 1939 прымае ўдзел у баях з гітлераўскай групоўкай, якая спрабавала знянацку захапіць Варшаву. З гэтага часу пачалася абарона польскай сталіцы. Нямецкія войскі перавышалі польскія не толькі колькасцю салдатаў, але найперш – па танках, самалётах і артылерыі. Першы арганізаваны штурм горада адбыўся 13 верасня. Жорсткія баі разгарнуліся на подступах да горада. 144-ты пяхотны полк пад камандаваннем палкоўніка В. Дзюбкі, дзе ваяваў наш зямляк, абараняў заходні напрамак, на які наступалі дывізіі 8-й нямецкай арміі і 11-га корпуса. Нягледзячы на несупынныя бомбавыя ўдары з паветра і агонь цяжкай артылерыі, падраздзяленні дзень за днём абаранялі сталіцу. Гітлер прыспешваў сваіх палкаводцаў узяць Варшаву да 16 верасня, але раз'юшаныя хвалі фашыстаў разбіваліся, не дасягнуўшы мэты, аб мужнасць і гераізм абаронцаў. 17 верасня на Польшчу з усходу пачынае наступленне Чырвоная Армія; польскі ўрад пакідае краіну, а сталіца працягвае няроўнае змаганне. Немцы пачынаюць другое генеральнае наступленне 19 верасня. Але і яно не дасягае мэты. Абарона працягваецца на самых подступах да горада. Абаронцы абапіраюцца на фарты крэпасці, пабудаванай у XIX стагоддзі. 2-гі батальён 144-га палка пад камандаваннем маёра Б. Вадаса, дзе ваюе Браніслаў Гяч, займае абарону ў форце імя генерала Бема. Старыя крэпасныя сцены не вытрымлівалі сучасных цяжкіх снарадаў і бомбаў, часта рассыпаліся ў друз, пад якім гінулі абаронцы. Наваколле было ў полымі ад пажараў, немцы скідвалі запальныя бомбы. Такіх варварскіх бамбардзіровак гісторыя войнаў яшчэ не ведала. У некаторых налётах прымалі ўдзел 1 150 нямецкіх самалётаў. Абаронцы форта неслі вялікія страты пад час тушэння пажараў пад несупынным дажджом смяротных асколкаў. Але і другі штурм быў адбіты. На трэці фашысты падцягнулі ўсе свае сілы, бо асноўныя польскія войскі па краіне былі разгромленыя. Раніцай 26 верасня пачаўся генеральны штурм польскай сталіцы. У напрамку форта Бема, дзе змагаўся з сябрамі наш зямляк, наступала 19-я нямецкая дывізія. Значная частка 2-га батальёна загінула, большасць была паранена. Але абаронцы (а сілы ворага пераўзыходзілі амаль у 10 разоў) вытрымалі і гэты наступ. Ды апоўдні абаронцы былі вымушаны пакінуць фарты Макотуў, Дамброўскага, Чэрнякуў. Ва ўмовах, калі ўсе магчымасці абароны былі вычарпаныя, штаб абароны Варшавы, каб не дапусціць гібелі жыхароў пад час вулічных баёў, вырашыў пачаць перамовы аб спыненні агню і капітуляцыі. Як Браніслаў Гяч не трапіў у нямецкі палон і пасля капітуляцыі здолеў вярнуцца ў родную вёску, назаўсёды застанецца таямніцай.



Legitymacja
St. St. Giacz Bronisław
ur. dn. 23 VIII 1911 r. Racznowo
3 komp. 144 P.Ppn
PUŁK PIECHOTY 144 BATALION
Kaminski kpt.
Warszawa dn. 29 IX 39 r.

*Пад час вайны ён працягваў працаваць на гаспадарцы. Перажыўшы пекла абароны Варшавы, ён быў без суда забіты супрацоўнікамі НКУС у 1944 годзе. Але дзякуючы дакументам памяць аб нашым земляку, які адзін з першых уступіў у бой з фашыстамі, застанецца.*

**Вітаўт ЕРМАЛЁНАК,**
*дырэктар гістарычнага музея СШ № 3 г. Мёры*




*Фрагмент карты «Абарончая вайна Польшчы ў 1939 г.» з кнізе «Нарыс Польскай дзяржавы і народа» (Варшава, «Demart», 2005)*

*Вітаю Вас, шаноўная рэдакцыя!*

*Найперш выкажу словы ўдзячнасці за тое, што дзякуючы Вам папулярызуецца наша гісторыя, гэта не дазваляе грамадству страціць самасвядомасць.*

*Жадаючы хоць нейкім чынам спрычыніцца да гэтых пачэсных дзеянняў, дасылаю Вам артыкул, прысвечаны старажытным могілкам на Лёзненшчыне. Многія навукоўцы прызнаюць пытанне сярэднявечных пахаванняў не дастаткова даследаваным, таму, мяркую, артыкул гэты можа зацікавіць і іх.*



# Старажытныя могілкі,

## *альбо* Пра судакрананне мінулага і сучаснага

Увесь наш так званы сучасны свет – гэта спалучэнне рэштак мінулага і непасрэдна сучаснага, якое ўзрастае на аснове гэтых рэштак, трансфармуючыся і паступова ад іх аддзяляючыся. І адбываецца бясконцы працэс: усё беспрапынна змяняе сваю сутнасць. Нешта ўзнікае, паступова становіцца звычайным. Яно настолькі ўкараняецца ў паўсядзённыя працэсы, што на яго перастаюць звяртаць увагу. Паступова ў шматлікім знікае патрэба: звычайнае становіцца забытым, іншымі словамі, невядомым. І ўсё ж забытае мае шанец стаць адкрытым для людзей наноў. Адносна мясцовай гісторыі (а яна частка сусветнай) на ролю «першаадкрывальніка» калісьці ўжо вядомага прэтэндуе краязнаўца, які адшуквае рэшткі матэрыяльнага і духоўнага, вяртае іх да новага жыцця.

*Прыкладны план размяшчэння помнікаў*

Такія рэшткі знаходзяцца паўсюль, трэба толькі імкнуцца іх заўважаць. Яны – сведкі мінуўшчыны, гатовыя паведаміць пра яе штосьці новае, невядомае дагэтуль. Тое ж датычыцца і старых могілак, размешчаных у розных кутках Беларусі. Сярод старажытных магіл варта баяцца толькі ўласных думак ды жывых людзей.

Старажытныя могілкі захаваліся і на Лёзненшчыне: напрыклад, паміж вёскамі Якубаўшчына і Куляціна. Цяпер вакол іх – калгасныя палі, дзе часта пасвяцца статкі. Жывёлы, для якіх крыжы і помнікі нічога не значаць, ходзяць непасрэдна каля іх, ледзьве не заходзячы на асвечаную тэрыторыю. Людзі дазваляюць жывёлам гэта – значыць, забыццё пагражае ўсім нам. І ўсё ж сутыкненне жывога з нежывым – натуральная з'ява, значыць, жыццё працягваецца, жывое павінна перамагаць.

Мясцовыя жыхары ведаюць пра гэтыя могілкі далёка не ўсё. Так, адна з жыхарак вёскі Якубаўшчына ўпэўнена, што яны ўзніклі недзе пад час Вялікай Айчыннай вайны ці адразу пасля яе. А жыхар вёскі Куляціна зазначае, што на могілках пахавана вялікае мноства людзей – больш, чым пражывае зараз у дзвюх суседніх вёсках разам узятых. Апошняе сцвярджэнне мае грунтоўную падставу для даверу – некаторыя старажытныя магілы, якія захаваліся да сённяшняга часу. На некалькіх камянях высечаныя крыжы рознай формы. Два такія помнікі ўяўляюць сабой звычайныя валуны, паверхня якіх адшліфаваная самой прыродай. Паверхня трэцяга валуна яўна абцясаная чалавекам, але яна значна саступае паводле сваёй якасці працы, зробленай прыродай. Наступны помнік уяўляе сабой таўшчэзную каменную пліту з рэльефнай выявай чатырохканцовага крыжа (крыжы падобнай формы ў геральдыцы прынята называць кавалерскімі). Дакладна датаваць можна толькі адзін са старажытных помнікаў. Ён зроблены з плоскага каменю, усталяванага на магіле, і арыентаваны на ўсход. На ім высечаны крыж і некалькі надпісаў: ІС ХС. Н-І К-А. 11 Р 1785. Апошні хутчэй за ўсё азначае дату смерці.

Яшчэ некалькі помнікаў пазіраюць з-пад сучасных агароджаў ці з-пад зямлі, амаль ужо ў ёй схаваўшыся. Ледзьве не ўсю тэрыторыю могілак займаюць адносна нядаўнія пахаванні, дрэвы, хмызнякі, куды пазакіданыя пустыя шкляныя бутэлькі, якія праз адсутнасць зместа зрабіліся непатрэбныя. Хто ведае: можа гэта трансфармацыя традыцый? На сярэднявечных могілках знаходзяць рэшткі гліняных пасудзін – сведчанні правядзення тут трызнаў.

Пасля такога падарожжа ў мінулае ў свядомасці з'яўляюцца думкі пра тое, што трэба клапаціцца пра сучаснасць і будучае, але не пагарджаючы пры гэтым гістарычнай памяццю.

**Канстанцін КАРПЕКІН,**
*магістрант кафедры педагогікі ВДУ імя П. Машэрава*

**P.S.** *Магчыма, вышэй прыведзеныя звесткі зацікавяць пэўных навукоўцаў. Аўтар артыкула з задавальненнем падзеліцца інфармацыяй: яго каардынаты ёсць у рэдакцыі.*



*Выявы крыжоў на старажытных помніках*




*(Працяг. Пачатак у №№ 3–44)*

*1933 год.* У студзеньскім «ЛіМе» друкуецца артыкул «Супраць праяў нацыянал-фашызму ў беларускай літаратуры», дзе Купалу таксама не пакідаюць у спакоі (за п'есу «Тутэйшыя», «за памылкі мінулага» і інш.), таму, хочаш ці не хочаш, а сваё выступленне ў «Литературной газете» за 17 лютага ён называе звышідэйна «Свою судьбу я навсегда связал с судьбой пролетарской революции». А хмары над Беларуссю цямнеюць і цямнеюць... Бо арышты самых сумленных і здольных людзей (не толькі карэнных, але і прыезджых на жыхарства і працу) працягваюцца, нават набіраюць абароты. Адпаведна, ці мог Янка Купала спакойна назіраць, што яму «пакінулі» жыццё, а вось самых лепшых ягоных сяброў-паплечнікаў, з маладых, на каго ён так пабацькоўску спадзяваўся, гвалтоўна забіраюць, знішчаюць аднаго за адным.... І не заступіся! Сам пад пільным назіркам! Ды калі нават старшыню ўрада рэспублікі (А. Кавалёва) арыштоўвае лейтэнант!

Купала залечвае фізічныя раны, а душэўныя ўзмацняюцца: з пісьменніцкіх і іншых інтэлігентных шэрагаў гвалтоўна вырываюцца З. Астапенка, С. Ліхадзіеўскі, І. Дварчанін, А. Грыневіч... І няма гэтаму малоху смерці спынення... Меў няшчасце ў жніўні пабываць на Беламорска-Балтыйскім канале (там яго са слязьмі на вачах сузіраў знясілены вязень Г. Гарэцкі. Можа, сярод шматлікага знясіленага нявольніцкага натоўпу Купала і не ўгледзеў Гаўрылу Іванавіча, але не мог не ўбачыць цяжкую працу зняволеных. Хоць у «Литературной газете» выказаў свае ўражанні ва ўзнёслым тоне пад назвай «Цуд, створаны бальшавікамі».

Пакутуючы душой, Купала працягвае жыць – стварае і ў чэрвені друкуе ў «Звяздзе» паэму «Над ракой Арэсай», пра што было паведамлена і за межамі СССР (найперш у славянскіх і прыбалтыйскіх краінах). У «Вялікай сусветнай літаратуры» (Польшча) ён высока ацэньваецца як майстра паэзіі і драматургіі, а таксама «за шчырасць пачуцця, багацце мовы і дасканалае майстэрства», «ён па праву займае выдатнае месца ў беларускай літаратуры». Гэта, бясспрэчна, маральна падтрымлівала ў цяжкія хвіліны. Хоць цалкам пазбыцца розных трывог было немагчыма: узмацняліся рэпрэсіі супраць беларушчыны ў Польшчы і ў БССР, шугалі кастры з выдатных кніг у Германіі (як пазней стала вядома, гарэлі беларускія кнігі, часопісы, рукапісы, лісты і ў двары мінскай турмы-«амерыканкі»).

*1934 год.* На пачатку яго, падлячыўшыся, Купала вяртаецца з Кіславодска, дзе вывучаў пастанову СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» і наконт гэтага напісаў адпаведны ліст у АН БССР. Яшчэ адзін ліст напісаў супраць асобных выступленняў у заходнебеларускім друку, у якіх, на яго думку, несправядліва ганьбілася распрацаваная Інстытутам мовы і літаратуры Беларускай Акадэміі навук рэформа беларускага правапісу. Актыўна прапагандуе жыццё і творчасць выдатнага ўкраінскага паэта Т. Шаўчэнкі, пераклаў і змясціў у «ЛіМе» шматлікія яго вершы, выступае на вечары, прысвечаным 120-годдзю з дня нараджэння ўкраінскага кабзара.

***Пачынаючы першыя публікацыі, прысвечаныя 125-гадовым юбілеям Янкі Купалы і Якуба Коласа, мы прыводзілі асобныя звесткі з іхняга радаводу і, у прыватнасці, напаміналі, што яны нарадзіліся ў вялікіх сем'ях. Многія і цяпер лічаць, што, напрыклад, у Дамініка Луцэвіча (1846 г.н.) і Бянігны Валасевіч (1857 г.н., значыць, ёй сёлета – 150) старэйшым з дзяцей быў Ясь (будучы Янка Купала). Гэта не зусім так, першынцам быў Мікалай (1881 – ?), пасля іх «пайшлі» дзяўчаткі – Ганна (1886–1962), Марыя (1887–1966), Казімір (1891 г.н.), Сабіна (1893 г.н.), Гелена (1896 г.н.). Для апошніх трох, як і для бацькі, трагічны стаўся 1902 год, калі яны пакінулі гэты свет.***

***У пераліку неназваная яшчэ адна Купалава сястра, Леакадзія (1890–1970), пазней яна разам з Янкавым сябрам Юльянам Рамануўскім (ён будзе рэпрэсаваны ў 1937-м, і далейшы лёс яго невядомы[1]) дасць жыццё пецярым дзецям. Вядомы мастак Янка Рамаоўскі – іхні меншанец. А каму з пісьменнікаў, мастакоў, выкладчыкаў беларускай літаратуры невядомая Ядвіга Раманоўская, якая змалку была ў Купалавым доме, на ўсё жыццё, як гаварыла даследчыкам і журналістам, запомніла дарагі для Раманоўскіх альбомны здымак, калі яна, пяцігадовая, разам з раднёй была на святкаванні 20-гадовага юбілею літаратурнай творчасці славутага, прыязнага да іх дзядзькі, калі потым, з 1927-га, жыла ў яго доме? Тады Купала з Купаліхай спрыялі ім выжыць, як не стала іхняга бацькі. Яна бачыла Купалу за рабочым сталом і па-за ім, у кампаніі з сябрамі ці незнаёмымі наведвальнікамі, вясёлага і маркотнага... З 1960 года, калі адышла з жыцця дырэктарка Літаратурнага Купалавага музея Уладзіслава Луцэвіч, яна стала галоўнай захавальніцай фонду і зрабіла шмат, каб папоўніць яго (скажам, арганізавала і правяла рэстаўрацыю ў Ленінградзе каля 1 000 адзінак захавання рукапісаў паэта, яго асабістых рэчаў, шукала іх у Маскве, Кіеве, Вільні, Рызе, Варшаве, спрыяла ствараць новыя экспазіцыі рознага жылля і месца працы Янкі Купалы як у музеі, так і па-за ім). Апошні раз бачылася з дзядзькам у жніўні 1941 года ў Маскве, дзе той дапамог ім падацца ў эвакуацыю.***

***Ніжэй падаем урыўкі з новых успамінаў Ядвігі Раманоўскай, звязаных і з імем Янкі Купалы.***


*Янка і Ядвіга Раманоўскія (прыкладна пач. 1950-х гг.)*

# Пра дзядзьку Янку і цёцю Уладзю

...На пачатку Вялікай Айчыннай вайны наша сям'я была параскіданая па свеце. Я з дачкой Жанай апынулася ажно ў Новасібірску. Праз нейкі час да нас прыбыла мая старэйшая сястра Уладзя. Сярэдняя сястра, Яніна, урач-хірург, трапіла ў дзеючую армію.

Дзядзька Янка з цёцяй Уладзяй на пачатку вайны выехалі на сваім легкавіку «Шэўрале» на лецішча ў Ляўкі, што ў 20 км ад Оршы. Яны лічылі, што Мінск пакідаюць часова. Туды ж прыехаў і Якуб Колас з сям'ёй, акрамя сына Юрыя, які ў гэты час знаходзіўся на вайсковых зборах. Усіх іх цёпла сустракала мая мама Леакадзія Дамінікаўна. Ды праз некалькі дзён і тут далей знаходзіцца было небяспечна: пачалі лётаць варожыя самалёты над пераправай праз Дняпро. Захваляванай Коласавай сям'і дзядзька Янка паспрыяў знайсці папутную машыну, і яны выехалі на ёй, каб патрапіць да радні жонкі Якуба Коласа. Пасля і сам з цёцяй Уладзяй і з шафёрам Яртымікам рушылі да Масквы. Падалася ў бежанцы і мама з сынамі-школьнікамі Уладзіславам і Янкам.

Дзесьці праз дзён дзесяць я даведалася праз Беларускае Прадстаўніцтва, што Янка Купала ў Маскве і спыніўся ў гатэлі «Масква». Там і адбылася наша сустрэча. Што да лецішча Купалавага, то яно згарэла 3 ліпеня 1941 года ад запальнай бомбы. Згарэў дом і ў Мінску з усім скарбам, у тым ліку і з рукапісамі, багатай бібліятэкай, архівам. Дзесьці праз месяц мы развіталіся на кватэры Елісеева. Цёця Уладзя загадзя паклапацілася, каб мы паехалі ў далёкую дарогу ў Новасібірск не галодныя...

...Вестку пра капітуляцыю нямецкіх войск у Берліне я пачула па радыё ў школе. Расплакалася. Выйшаўшы са школы № 32, я і радасна, і горасна (з-за родных, якія былі страчаны не толькі для мяне, але і для ўсёй Беларусі) крочыла па Красным праспекце і ніяк не магла стрымаць слёз, што цяклі і цяклі з вачэй. Перамога, вялікая перамога над лютым ворагам чалавецтва – фашызмам, а ёй не парадуюцца ні дзядзька, ні бабуля, якіх у 1942 годзе не стала амаль у адзін дзень...

Неўзабаве мне і сястры Уладзіславе прыйшла тэлеграма з Саўнаркама БССР і з Аддзела аб рээвакуацыі бежанцаў, паводле якой мы маглі вярнуцца ў Мінск. Услед за сястрой і я афарміла дакумент на наш з Жанай выезд і напрыканцы мая былі ў Маскве, дзе на вакзале нас сустракалі. Сярод самых дарагіх нам з дачкой людзей была і мая мама Леакадзія Дамінікаўна і сястра, франтавічка Яніна. Зразумела, мы не маглі не прытуліцца і не паплакаць, што ацалелі, але што вунь каго ўжо няма сярод нас... У гэты ж дзень мы паехалі ў крэматорый, дзе ў адным з калумбарыяў пакоілася ўрна з прахам Янкі Купалы. Там і схуднелая мама, і мы, астатнія, зноў не маглі стрымаць слёз. Яніна (у вайсковай форме, з узнагародамі) мусіла паспяшацца даганяць сваю вайсковую часць, а мы запыніліся ў Маскве. Паехалі да знаёмых на Крапоткінскую вуліцу, дзе нас сустрэлі цёпла, нават здолелі і ў цяжкі час пачаставаць. Выехаць у Мінск было вельмі цяжка: хадзілі найперш воінскія эшалоны. Ды і, апроч нас, таксама туды імкнуліся іншыя цывільныя людзі. Хоць на папялішча, але на радзіму! Таму некаторыя з іх дабіраліся нават на даху цягніка. Нам пашанцавала ўладкавацца на адкрытай платформе таварняка. Як і тым, хто ліпеў на даху, так і нам на платформе можна было загінуць.

Цягнік рухаўся павольна. Па дарозе мы, «новасібірцы», з горкім сумам назіралі, што сталася з навакольнымі вёскамі; мама бачыла ўжо гэтыя разбурэнні, дык цяпер маўчала, толькі цяжка ўздыхала. Калі пад'язджалі да Смаленка, загаварыла: «І тут у свой час жыў Янка з Уладкай. На Мала-Багаслоўскай вуліцы. Мы з Акопаў і Калісбэрга пасылалі сюды ім, маладым, такі-сякі харч. Тоесёе з гэтага, канечне, трапляла і Уладкаваму брату, Вікенцію» (Купалу перавялі з Полацка ў Смаленск увосень 1917 года, дзе ён жыў па 21 студзеня 1919-га. – **Рэд.**). Канечне, мама ўспомніла тыя побытавыя эпізоды не зусім выпадкова, а ад глыбокага болю... Не меншы ён быў і каля Оршы, непадалёку якой было Купалава лецішча, куды перад вайной яна часта наведвалася з намі, дзецьмі, памагала тут весці такую-сякую гаспадарку (у гасцінных Купалы і Купаліхі заўсёды было шмат гасцей як з Беларусі, так і з Масквы), спрыяла брату падняць чалавечы і творчы настрой, калі яму было цяжка... Цяпер не было ўжо ні лецішча, ні яго гаспадара... Ды і на Барысаўшчыне ныла сэрца. Гэты куток таксама быў дарагі Луцэвічам (яны ў свой час тут арандавалі зямлю), Купалу асабліва: тут ён перад вайной часта выступаў і адзін, і з калегамі-пісьменнікамі. Хоць і нам з мамай было мала сказаць шчымліва: тут галоўным механікам МТС працаваў наш дарагі Юльян Феліксавіч (дарэчы, па народным календары святога Юльяна лічылі апекуном малых дзетак, дык вось наш бацька пасапраўднаму любіў нас, дык і мы яго горача любілі).


*Пятрусь Броўка, Леакадзія і Ядвіга Раманоўскія (прыкладна 1948 г.)*

*Ядвіга **РАМАНОЎСКАЯ***

*(Заканчэнне будзе)*

[1] Пасля падрыхтоўкі гэтага матэрыялу да друку Ядвіга Раманоўская ўдакладніла, што некаторыя даследчыкі выявілі ў архівах: яе бацька быў расстраляны 2 студзеня 1938 года.






*(Працяг. Пачатак у №№ 40, 41 і 44)*

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

## Сустрэча Коласа і Купалы

*На парог узыходзілі,*
*нагінаючыся,*
*кланяючыся*
*цёмным сенцам.*
*І маціцы забрунелыя*
*угіналіся,*
*і скрыпела падлога,*
*зацярушаная*
*аерам і сенцам.*
*І Нёман лашчыўся*
*аб берагі расяныя,*
*і жыта слухала,*
*пра што бяседа...*
*Два дзецюкі*
*пад страхой саламянаю*
*на лавы*
*за мужыцкім сталом*
*паселі.*
*...З пары той – што*
*засталося ў спадчыну?*
*Нёман-любоў*
*і любоў-палеткі,*
*мова-любая –*
*бацькава, матчына,*
*дзяды,*
*дзядзькі,*
*дзецюкі,*
*дзеткі...*
*І вера, што недзе*
*ў высокай святліцы*
*спеліць задуму*
*цішыня галасістая...*
*Зямля купалкавая,*
*зямля каласістая,*
*на парог твой ступаючы,*
*нельга не пакланіцца.*

*1967*

**Анатоль СЫС**

## Прачытаўшы верш Пімена Панчанкі «Развітанне»

*Родны мой Пімен Панчанка,*
*Вы сказалі: настала змярканне?*
*Вы сказалі на маці – мачыха?*
*Бо настала Вам развітанне?*

*З яе словам – ужо не родным,*
*з яе сонцам – ужо халодным,*
*з яе людам – спрадвек галодным,*
*нават Богу й таму няўгодным...*

*Адыходзіце ці зракаецеся?*
*Ці сухімі слязамі каецеся?*
*Пад крыжамі Сафіі полацкай*
*бюракрат за Вас не памоліцца,*
*а памоліцца за Вас мачыха,*
*за сыночка свайго, за Панчанку,*
*і ў галовах запаліць свечачку.*
*Можа, ўзімачку, а можа, ўлецечку*

*скрозь расстанне і скрозь змярканне*
*на агеньчык паэт прыстане,*
*скажа: родны мой Пімен Панчанка,*
*я Вам верыў, ды вера страчана.*

*І ў галовах патушыць свечачку,*
*можа, ўзімачку, а можа, ўлецечку*
*пад крыжамі Сафіі полацкай*
*ён за Белую Русь памоліцца,*

*за наступнікаў і за прадзедаў,*
*ён памоліцца так, як дадзена,*
*як вучылі Купала з Коласам –*
*крэўнай моваю, родным голасам.*

*Вы жывымі слязьмі заплачаце,*
*за паэтам народ убачыце*
*скрозь расстанне і скрозь змярканне,*
*Вам за смерць сваю прыкра стане,*

*бо пад небам Сафіі полацкай*
*на народных паэтаў моляцца.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

*Кнігі – сябры.*
*Іх кідаюць перш за ўсё.*
*Але ўсё ж Чалавек*
*Выходзіць... у дарогу,*
*Захапіўшы з сабой*
*Акрым шчоткі зубной*
*Багдановіча, Танка, Купалу,*
*І Коласа, і Панчанку,*
*І Эклезіяста,*
*І – у сэрцы – Бога...*
*...Кнігі – сябры.*
*Іх кідаюць перш за ўсё.*
*Але ў сэрцы яны застаюцца,*
*Як памяць нятленная.*
*Бо яны – гэта мы,*
*Бо яны –*
*«Гэта рэкі суць,*
*Рэкі, што назаўжды*
*Поясь вечную нашу ўсяленную».*

**Мечыслаў ШАХОВІЧ**

## Сустрэча

*А вечар у акно глядзіць:*
*Мо і яму цікава стала.*
*Насупраць Коласа сядзіць*
*Жаданы госць яго – Купала.*

*Гуляе вецер у бары,*
*Вісяць над хатай хмары суму...*
*Сядзяць на лаве песняры:*
*Вядуць гамонку да зары.*
*У сэрцы іх – цяжкія думы...*

*Заснула маці моцным сном,*
*І кот мурлыкае на печы.*
*У цемры ліпы за акном*
*Вартуюць пільна гэты вечар...*

*Вітала там, каб праз гады*
*Яшчэ вышэй узняць іх, слава!..*
*І сёння ў Смольні, як тады, –*
*І той жа стол, і тая ж лава...*

*Напруж, здаецца, толькі слых –*
*Праз тоўшчу часу, як бывала,*
*Пачуеш родны голас іх:*
*Гаворыць Колас і Купала...*

**P.S.**

**Якуб КОЛАС**
***Янку Купалу***

*Клікаў ён народ свой к волі,*
*Сеяў зерні поўнай жменяй,*
*Каб дабра яму даць болей,*
*А каб крыўды стала меней.*

**Янка КУПАЛА**
***Якубу Коласу***

*Ты помніш, помніш, Колас мілы,*
*Як я к табе ішоў у госці,*
*У час той подыху магілаў,*
*У час бяссільнай помсты, злосці.*

*Укладальнік анталогіі*
**Сяргей ПАНІЗЬНІК**



*Сход, прысвечаны беларускай літаратуры ў Маскве: Я. Колас, І. Гурскі, Я. Купала і А. Талстой у прэзідыўме (1939 г.)*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

*(Праця. Пачатак у №№ 3–44)*

Выйшлі яго «Выбраныя творы: Вершы і паэмы» (вершы 1904–1934 гг. і апавяданні вершам). Пішa некалькі новых вершаў, паводле ўспамінаў некаторых сведак, як і Купала, рыхтуе для выдання ў 1937-м першы акадэмічны том твораў (дакументальнага пацвярджэння апошняга няма). Прымае ўдзел у дыскусіі пра фармалізм у літаратуры, яго праграмова друкуецца ў «ЛіМе» пад назвай «Стварыць сапраўднае сацыялістычнае мастацтва». Заклік, безумоўна, быў актуальны, але, на жаль, як і ў паэзіі, так і ў прозе надрукаваць праўдзівае і высокамастацкае было цяжка. Ад палітычных назіркаў і ўмяшанняў цярпелі не толькі маладыя літаратары, але і ён ды Купала. З-за гэтага несла непапраўныя страты беларуская проза: адна з самых яе яркіх асоб, М. Гарэцкі, быў зняволены і высланы. Іншай не менш выдатнай асобе, К. Чорнаму, удавалася глыбока і з зайздросным майстэрствам пачынаць свае аповесці і раманы («Сястра», «Зямля», «Лявон Бушмар», «Бацькаўшчына» і інш.), а вось пад націскам рэдактараў і крытыкаў ён заканчваў іх схематычна, у нялепшым духу сацыялістычнага рэалізму, дзе ягоныя героі, якія любілі зямлю, сялянскую працу, былі добрымі гаспадарамі, «перавыхоўваліся з індывідуалістаў, кулакоў у свядомых членаў савецкай калектыўнай гаспадаркі». Перападала і менш вядомым, але таксама здольным празаікам М. Зарэцкаму (любімцу маладых пісьменнікаў у 1920-я), П. Галавачу, В. Кавалю і інш., якіх не проста перавучвалі, але неўзабаве ўвогуле пазбавілі жыцця. Колас у красавіку ўхваляе сёння малазразумелую ідэю ўтварэння «універсітэта для стаханаўцаў». Адпачывае і працуе на Пухавіччыне.

У жніўні «ЛіМ» падае цікавыя звесткі наконт кніжных здабыткаў: «кніжак Я. Коласа ў дарэвалюцыйны час было выдадзена 9, агульны тыраж іх склаў 25 000 экз. (...); у нас – 40 выданняў з тыражом 165 320 экз., а перакладаў (8) – 47 685 экз.» У кастрычніку шырока адзначаны ягоны творчы юбілей. Юбіляра віталі першыя асобы рэспублікі, вядомыя савецкія пісьменнікі і дзеячы мастацтва, навучальныя ўстановы і працоўныя калектывы. Пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б яму была выдзелена легкавая машына, а таксама было вырашана пабудаваць яму за кошт дзяржавы дачу з поўным яе абсталяваннем, адрамантаваць яго жылы дом. Літаратурныя вечары былі наладжаныя і ў Маскве. У лістападзе з Купалам удзельнічае ў рабоце Надзвычайнага XII з'езда Саветаў БССР (ён прадоўжыць работу ў наступным годзе, дзе будзе прынятая новая Канстытуцыя БССР).

Паднявольны на волі, Колас 27 студзеня *1937 года* ў «Звяздзе» ў сувязі з судовым працэсам над трацкістамі надрукуе, мала сказаць, суровы артыкул з бязлітаснай назвай «Пад савецкім сонцам няма і не будзе месца здраднікам». Такі ж ягоны вырак і ў «Літгазеце»: «Карта біта». Такі час! Такая эпоха! Гнулі, згіналі яны пад страхам смерці і волатаў чалавечага духу і мастацкага слова!



*Школьнае краязнаўства*

***Гэта так важна: знайсці тыя самыя неабходныя ніткі і саткаць сапраўднае прадзіва, каб было не толькі ўтульна, але і цёпла!***

***Свіслач – выток і аснова многіх чалавечых жыццяў. Гэтая мясціна адкрывае штодзень столькі дзівоснага, што адступаюць праблемы, бо радасць усцяшае душу цяплом і пашырэннем кругагляду ад новых сустрэч з Радзімай.***

***«Жыву ў Беларусі – і тым ганаруся» – словы, якія толькі пацвярджаюць значнасць акцыі. Дакладна ёсць чым ганарыцца!***

# КА – РА – ГОД

Некалькі гадоў таму была распачата праца з насельніцтвам (дарослымі і дзецьмі), накіраваная на стварэнне Цэнтра экалагічнай эстэтыкі ў Свіслачы. Яна заключалася ў тым, каб давесці, што карані нашага паселішча трывалыя, заглыбленыя ў дахрысціянскай даўніне, пазначаныя праз тысячагоддзі археалагічным помнікам культуры штрыхаванай керамікі VI–I стст. да н.э. Свіслач – гэта паўднёвая ўскраіна Полацкага княства, дзеля яго абароны тут быў узведзены замак ў XI ст. Сярэднявечны горад Свіслач вызначаўся як валасны цэнтр. У сувязі з узнікненнем новых шляхоў зносін, будаўніцтвам чыгункі ў Асіповічах статус яго змяніўся да местачковага ўзроўню ў пачатку XX ст. Паступовае заміранне жыцця вёскі пачало адбывацца ў другой палове мінулага стагоддзя. Аднак, кіруючыся законамі прыроды, нас чакае адраджэнне. Урэшце, мы сёння афіцыйна значымся як аграгарадок.

Зразумела, што такі «радавод» прыцягваў увагу многіх людзей. Гэтае права мы пакінулі і за сабой, праводзячы пэўную інфармацыю ў сваіх краязнаўчых даследаваннях.

Наш позірк быў скіраваны і на некаторыя будынкі: асабняк, вядомы як дом Яцко, што быў узведзены ў 1911 г., набыў статус архітэктурнай каштоўнасці ў 2005 г. Аказваецца, гісторыя яго насельнікаў уражвае!

У Свіслачы проста жылі: нараджаліся і паміралі, працавалі і адпачывалі, збіраліся на святы ў цэрквах, касцёле і сінагогах. Ладзілі кірмашы. Да тых, хто звязаў лёс са Свіслаччу, прыязджалі госці. Заўсёды жаданай для сям'і знакамітага ва ўсёй акрузе фельчара Мяфодзія Авакумавіча Смірагіна, які ў 1930–1940 гг. займаў другі паверх дома, была Ларыса Александроўская.



*Ларыса Пампееўна Александроўская*

**Ларыса Пампееўна Александроўская,** *народная артыстка БССР і СССР, дэпутат Вярхоўных Саветаў БССР і СССР, кавалер ордэнаў Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга і Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР. Нарадзілася 15 лютага 1902 г. (паводле афіцыйных дакументаў – 1904 г.). На самадзейнай сцэне выступала з 1920 года., на прафесійнай – з 1928 г. З 1933 па 1953 гг. – вядучая салістка ДАВТа Беларусі. З 1951 года працавала галоўным рэжысёрам ДАВТа БССР. Праславілася як выканаўца беларускіх народных песень, у тым ліку знакамітай «Перапёлачкі», якая зрабілася яе візітнай карткай. Памерла 23 мая 1980 г.*

Нядаўна адбылася наша рабочая паездка ў сталічныя музеі.

У музеі гісторыі медыцыны ёсць толькі фотаздымак М.А. Смірагіна. Хто ведае: можа, дзякуючы гэтаму чалавеку абраў медыцыну сваёй прафесіяй заслужаны хірург БССР Іван Майсеевіч Стэльмашонак. Ва ўсякім разе, успамінаючы часы навучання ў Свіслацкай школе, ён сведчыў, што «в Свислочь на каникулах приезжала Л.П. Александровская, которая руководила кружками художественной самодеятельности».

У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі прапанавалі пазнаёміцца з экспазіцыяй, якая прадстаўляе асабістыя рэчы актрысы. Скіравалі ўвагу да кнігі «Лариса Помпеевна Александровская» Арыядны Ладыгінай, вядомага беларускага вучонага-эстэтыка, педагога і музычна-тэатральнага крытыка, доктара філасофскіх навук, прафесара.

Між іншым, сенсацыяй аказалася для супрацоўнікаў музея, што ў гэтай кнізе згадваюцца і Свіслач, і Ялізава, і Асіповічы: «Хорошо вспоминаются частые поездки с трёх-четырёхлетнего возраста и в местечко Свислочь, что за Осиповичами (на месте впадения Свислочи в Березину), к маминым сёстрам – тёте Мане и тёте Шуре. Александра Николаевна (тётя Шура) со своим мужем фельдшером Смирягиным и двумя братьями – Всеволодом и Кириллом – жила в Свислочи постоянно, пользуясь уважением во всей округе. То было замечательное время. Собиралась по вечерам молодёжь, сельская интеллигенция: учительница, служащие почты. Шли гулять «в берёзки» (берёзовая аллея на старом екатерининском тракте). За ними неизменно увязывалась детвора. Смотрели пароход на Березине. Посещали старинный замок на стыке рек. Купались в Свислочи. Пели белорусские народные песни (вот откуда любовь к песне!).

Недалеко, в Елизово, был маленький стекольный заводик, молодые рабочие с которого помогали «доктору Смирягину» строить дом. Они тоже участвовали в вечерних прогулках. В 1946 году, уже после окончания войны, железнодорожники станции Осиповичи выдвинули Л.П. Александровскую кандидатом в депутаты Верховного Совета СССР. Жили ещё в землянках, когда Лариса Помпеевна приехала к ним на предвыборную встречу. Повылезали из землянок, обступили толпой: "Гэта ж наша Ларысачка! Яна тут яшчэ басаниж хадзіла".

Пребывание в белорусской глубинке у тёти Шуры как в раннем детстве, так и позже, оставило в сердце незабываемые впечатления, обогатило душу встречами с самыми разнообразными людьми. Необычайно пополнился жизненный опыт. Вместе с деревенскими девушками сгребала сено, складывая его в скирды. Иногда оставалась за хозяйку одна с малыми двоюродными братьями: доставала из русской печи ухватом борщ и гречневую кашу, кормила двух кабанов, кур, доила корову...

...С тётей Шурой, равно как и с другими сёстрами своей матери, Лариса Помпеевна будет дружна до самой смерти».

Былы настаўнік Георгій Цімафеевіч Забаўскі памятае, што яго маці разам з іншымі жанчынамі, а таксама Ларысай Александроўскай, спявалі на клірасе ў царкве.

*Нас цікавіць любая інфармацыя, звязаная з жыццём Свіслачы.* Магчыма, ёсць людзі – носьбіты «свіслацкіх таямніц». Аб'яднаўшы свае памкненні ў творчых росшуках, мы сцвердзім думку: Сусвет – адзінае цэлае, бясконцым будзе спрадвечны КАРАГОД у гонар існавання чалавека на планеце!



*Пасляваенныя хірургі: трэці справа І.М. Стэльмашонак*

***У 2006 годзе мы звярнуліся ў Міністэрства культуры з некаторымі прапановамі, у тым ліку і аб правядзенні ў Свіслачы дзіцячага фестывалю духоўнай і фальклорнай спадчыны. Відаць па ўсім, што гэта вельмі актуальна як з боку маральнасці (каб жыла памяць), так і дыдактыкі (выхоўваць патрыётаў і эстэтаў).***

***Ніна САКАВА,***
***загадчык краязнаўчага музея Свіслацкай САШ Асіповіцкага раёна***

# «Няма нецікавых мясцін...»

***Імя Адама Мальдзіса як вучонага, пісьменніка, журналіста шырока вядома як у Беларусі, так і за яе межамі. Аўтар шматлікіх навуковых газетна-часопісных публікацый, кніг.***

***Напярэдадні з'яўлення даведніка «Літаратурныя мясціны Беларусі» я звярнулася да Адама Восіпавіча з просьбай адказаць на некалькі пытанняў.***

*– Адам Восіпавіч, вядома, што з 10-га нумара часопіса «Маладосць» Вы пачынаеце друкаваць даведнік «Літаратурныя мясціны Беларусі». Над імі працуе калектыў аўтараў, які Вы ўзначальваеце. У чым галоўная задача даведніка?*



– Адметнасцю даведніка з'ўляецца тое, што ў ім матэрыялы (маленькія артыкульчыкі) будуць размешчаны не «па пісьменніках», як гэта было, скажам, у шасцітомным біябібліяграфічным энцыклапедычным выданні «Беларускія пісьменнікі», а па тэрыторыі, зямлі. Каб чытачы, на якіх мы арыентуемся (а гэта настаўнікі, вучні, шматлікія краязнаўцы, турысты), ведалі: вось у гэтым (нашым) горадзе, раёне, вёсцы нарадзіліся, жылі, тварылі, пахаваны такія і такія пісьменнікі, і трэба ганарыцца імі, ушаноўваць іх памяць, калі іх ужо няма сярод нас. І тады чытачы прыйдуць да вельмі важнай высновы: нецікавых у літаратурных адносінах мясцін у Беларусі проста няма.

Вядома, ёсць «паэтычныя гнёзды», як на Капыльшчыне, Ушаччыне ці Лагойшчыне, ёсць раёны (пераважна на памежжы), якія менш «населены» літаратарамі, але абсалютна «белых плям», на шчасце, няма. Усюды знаходзіцца хтосьці, хто спрабуе свае ўражанні ад навакольнага жыцця, прыроды зарыфмаваць, выкласці ў абразку, нарысе, апавяданні, а то і ў рамане.

Даведнік аблегчыць быццё ўсім тым, хто шукае, вядзе экскурсіі ці стварае школьны музей. Адным словам, з'яўляецца патрыётам малой і вялікай Айчыны.

*– Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра структуру «Літаратурных мясцін Беларусі».*

– Структура будзе празрыстай, адпаведнай алфавіту і адміністрацыйнаму падзелу. Спачатку ідзе абласны горад, а ў ім – матэрыял згрупаваны па вуліцах, па пісьменніках, якіх не ўдаецца канкрэтна лакалізаваць. Прытым будуць брацца пад увагу не толькі пісьменнікі беларускія ці тыя, што жылі або жывуць (сярод апошніх мы аддаём зразумелую перавагу членам творчых саюзаў) у Беларусі, аднак пішуць на іншых мовах, але і прадстаўнікі літаратур іншых народаў, якія пабывалі на беларускай зямлі, пакінулі тут свой след.

За абласным горадам «пойдуць» раёны ў алфавітным парадку, а ў раёнах – вёскі (асабліва цяжка тут лакалізаваць, скажам, фальваркі ці хутары, якіх даўно няма).

Спачатку мы меркавалі змясціць у кніжным выданні спецыяльны раздзел, прысвечаны беларускім літаратурным мясцінам за межамі краіны, але потым зразумелі, што гэта пакуль нерэальна.

*– Наколькі складана было працаваць над даведнікам? Ці абмяркоўвалася сабраная Вамі інфармацыя з краязнаўцамі, якія працуюць у рэгіёнах? Ці шмат было ўдакладненняў?*

– Вельмі складана. Да прыкладу, як устанавіць дату смерці пісьменніка, калі нашы сродкі масавай інфармацыі прызвычаіліся ісці найлягчэйшым шляхам: «нядаўна нас пакінуў», «на 81 годзе адышоў ад нас», «у канцы мінулага месяца прыйшла жалобная вестка». Той, хто прыносіць у газету некралог ці спачуванне, павінен назваць і канкрэтную дату, бо потым будзе позна нешта высветліць. Колькі разоў я гаварыў пра гэта на розных пасяджэннях, спецыяльна «буркатаў» на старонках «Советской Белоруссии» у артыкуле «Memento mori», але мала што змянілася да лепшага. А што тады рабіць краязнаўцам, энцыклапедыстам, гісторыкам літаратуры? Калі адзначаць, скажам, юбілей?

Другая складанасць: ну, не жадаюць новыя сябры творчых саюзаў уважліва запаўняць анкеты, на якія мы вымушаны арыентавацца. Нават дату ці месца нараджэння забываюць указаць.

Вось тут мы і арыентуемся на дапамогу такіх краязнаўцаў на месцах, як Вера Ляшук у Брэсце ці Аляксей Пяткевіч у Гродне, якім мы пасылалі першапачатковыя тэксты для ўдакладнення. І яшчэ спадзяемся на ўдакладненні і дапаўненні іншых энтузіястаў.

Калісьці я наіўна думаў, што складу даведнік адзін, дзеля гэтага нават аб'ехаў мо з 15 раёнаў, назапашваў факты, працуючы ў архівах. Але потым зразумеў, што такі даведнік – справа калектыўная. І таму над ім практычна працавала пяць асобаў.

*– Якія адкрыцці ўдалося зрабіць у час работы над даведнікам?*

– Адкрыцці? Яны ў такіх даведніках застаюцца невідочнымі, бо чытачу прапануецца толькі вынік. Прывяду прыклад. Доўгі час лічылася, што паэт Змітро Віталін дзесьці загінуў на фронце. А потым аказалася, што ён даслужыўся ў арміі да вялікіх чыноў, пасяліўся ў Адэсе і там выдаў на рускай мове добры дзесятак кніжак ужо не пад паэтычным псеўданімам, а пад сапраўдным прозвішчам Зміцер Сергіевіч[1].

*– Вы часта ў «Маладосці» будзеце друкаваць матэрыялы з цыкла «Літаратурныя мясціны Беларусі»?*

– Наколькі будзе зацікаўленасць да майго даследавання. Таму пасля Брэстчыны, відаць, «пойдуць» Гродзеншчына, Магілёўшчына і Міншчына. Бо Віцебская і Гомельская вобласці ўжо «прайшлі» своеасаблівую апрабацыю, няхай і ў выданні, якое ў продаж не паступала, а толькі рассылалася па школах. Адным словам, будзе відаць.

***Гутарыла Таіса ТРАФІМАВА***

[1] Пра паэта З. Віталіна (Зм. Сергіевіча) і яго нялёгкі лёс «КГ» змяшчала аб'ёмны матэрыял.





*Хто, як кажуць, адчувае пульс развіцця беларускай журналістыкі апошніх паўтара дзесятка гадоў, не мог не заўважыць: у нашай цэнтральнай прэсе сярод іншых запамінальна загучаў голас Інесы Багдзевіч. Пра шматлікія нюансы сацыяльнага жыцця, лёсу жанчын і сучаснай сям'і. Гэтая аўтарка – адна з нямногіх журналістак, хто не паддаўся дзеля ўласнага выйгрышу на працэс сузіральнасці і прыстасавальніцтва да нялепшай штодзённасці, дык паступова пачала пераходзіць і да іншых тэм, дзе можна паўнацэнна выказаць свае веды і светаўспрыманне на падмурку асвятлення многіх перыпетый нашай гісторыі і культуры. Адпаведна, пакінуўшы працу ў вядомым газетным выданні, пачала адыходзіць і ад газетнай публіцыстыкі. Спачатку гэты шлях вёў яе да жанру дакументальнай прозы, пазней скіраваў да мастацкай.*

*У 2005 годзе яна выдала першую кнігу – апрацаваны ёю зборнік беларускіх казак «Куфэрак бабці Ганці». Захапіўшыся светам старажытных беларускіх легенд і паданняў, іхнімі рэалізмам і сімвалічнасцю, рашылася на смелы крок – спалучыць усё гэта з сучаснасцю. Лепш сказаць, суразмерыць спрадвечныя і сённяшнія як духоўныя каштоўнасці, так і заганы. Прыкладна так, як гэта ў XIX стагоддзі рабіў наш зямляк Я. Баршчэўскі ў кнізе «Шляхціч Завальня», знітаваўшы фальклорнае, містычна-фантастычнае і рэальнае, свет хараства і дабрыні з антысветам усяго злога. Пазней па-свойму ўжывалі такі літаратурны прыём у асобных творах Я. Колас («Казкі жыцця»), М. Багдановіч, Зм. Бядуля, Ул. Караткевіч і іншыя. Безумоўна, высокага ўзроўню ў гэтым жанры дасягнуў рускі пісьменнік М. Булгакаў у рамане «Майстра і Маргарыта», дзе бліскуча намаляваў і карціну Масквы 1920–1930 гадоў, і з'яўленне ў ёй вышэйшага д'ябла Воланда, і гісторыю прапаведных казанняў Хрыста і абставіны ягонага знішчэння. Твор чытаеш як адно цэлае на адным дыханні, верыш як у святую, так і ў нячыстую сілу, пераконваючыся: зло з'яўляецца, пануе там, дзе для яго ствараюць грунт людзі з пустою душой. І рана-позна зло насцігае, губіць менавіта іх, юдавых нашчадкаў...*



*Інеса Багдзевіч у цыкле апавяданняў «На кухні ў Рэгіны Магдалены» светаўспрыманнем сучасных герояў – пажылой жанчыны, маладых настаўніцы і медсястры – паспрабавала па-свойму адлюстраваць іх успрыманне разнастайных (высакародных і злых) учынкаў і паводзін легендарна-казачных даўніх нашых продкаў розных сацыяльных груп. Гэтае адлюстраванне накладае свой след на сучаснасць, мае маральны і павучальны сэнс. Жадаючы ў гэтай няпростай літаратурнай справе поспеху аўтарцы, хачу і пажадаць ёй у многіх выпадках не толькі пераказваць падзеі і людскія дзействы, а і расказваць, празаічна маляваць – прыроду, чалавечыя партрэты, сканцэнтроўваць вялікую ўвагу на паказе індывідуальнай мовы і думак, дзеянняў герояў: тады не будзе вялікай патрэбы аўтару самому даваць ацэнкі, маральныя высновы, а гэта будзе вынікаць само па сабе, нават і з падтэксту. Асабіста я веру ў творчую індывідуальнасць Інесы Багдзевіч і жадаю ёй далейшых плённых пошукаў у жанры яе спецыфічнай прозы.*

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

***Інеса БАГДЗЕВІЧ***

# Закляты скарб

## Апавяданне

Калісьці каля нашага лесу стаяў двор заможнага гаспадара. Заўсёды там радзіла збожжа, былі гладкія каровы, завіхалася некалькі парабкаў. А кіравала імі гаспадарова дачка Францішка. Была гэта дзяўчына гожая ды руплівая. Да работнікаў адносілася строга, але справядліва. Любіла, каб усе добра працавалі і былі накормленыя.

Надумаў з ёй адружыцца адзін парабак. Зваўся ён Раманам. Быў гэта хлопец нябрыдкі, але гультаяваты. «Ажанюся, – думае сабе, – з Францішкай, і скончацца мае пакуты. Няхай ужо яна завіхаецца па гаспадарцы, а я ў хаце пасплю. І так тут усяго хапае. А Францішка хай радуецца, што мужыка ў хаце мае».

Накупляў ён пернікаў і падаўся на перамовы. Так і так, маўляў, хачу прыслаць да цябе сватоў.

– Мусіць, не трэба, – кажа дзяўчына. – Наўрад ці атрымаецца ў нас што.

Здзівіўся Раман.

– Жаніхоў на вёсцы мала, – паглядзеў недаўменна.

– Але гультая не хачу. Бачу я, што да работы ты нядбалы. Вось як заробіш сам на нашае вяселле, тады яшчэ, можа, пагляджу.

Ляснуў жаніх дзвярыма і падаўся дадому. Жыў ён у спарахнелай бабыльскай хаціне. Там гэтакіх пасцеляў з падушкамі, як у Францішкавых харомах, не мелася. Спаў Раман на лаўцы, падклаўшы пад галаву кажух. А з усяе жыўнасці меў аднаго кашчаватага сабаку. І той без ланцуга бадзяўся.

Выпіў хлопец з гора і заснуў. А нараніцы раздумаўся. Што ж гэта будзе? Нявеста ўсе-такі выгадная. І ўспомніў ён, што казалі штосьці старыя людзі пра закапаны ў лесе скарб. А хто закапаў і дзе, даведацца таго няможна. І не трэба. Закляты той скарб.

Зацікавіўся Раман. А што, як пашанцуе? Навастрыў ён ножык, свіснуў сабаку і падаўся ў лес. Хадзіў-хадзіў знаёмымі сцежкамі, толькі нічога не нагледзеў. Сосны як сосны. Пад якой шукаць, невядома.

Стала ўжо вечарэць. Гукнуў хлопец сабаку, а з тым шэрая сучка бяжыць. Так і лашчыцца, так і зазабляе. І вывела яна іх на паляну. Ляжаў там вялізны ружовы камень, якога Раман ніколі не бачыў. Ажно здзівіўся: адкуль такі? Прыгледзеўся – выбітыя на валуне нейкія словы. Э-э, думае, не сам тут гэты камень з'явіўся. І не такія на ім літары, як зараз пішуць, а нібыта ўзоры, што на ручніках ткуць. Трэба будзе тут папрацаваць.

Вярнуўся Раман дадому як у ліхаманцы. Гэта ж, мяркуе, пэўна пад тым валуном скарб. Чым далей, тым болей цягне яго на паляну. Ноч не спіць, кідаецца. Мроіць куфэрак, поўны золата. Мроіць, як купіць пасцелю з трыма падушкамі. Як знойдзе нявесту, лепшую ад Францішкі.

Зусім зняможаны падняўся нараніцы хлопец. Хапіў ужо рыдлёўку, толькі ж як з ёй выйдзеш? Дзень навокал. Людзі на гародах. Узяў, пакуль тое, малы шуфлік. Цікуе, ці няма каго пад вокнамі. Вось прагрукатаў воз, прайшлі жанчыны... Здаецца, ціха. Можна і выходзіць.

Дайшоў Раман з сабакам да лесу і ўбачыў чалавека, які сек на ўскрайку дровы. «Нешта надта прыглядаецца, – зазлаваў шукальнік. – Што яму да нас?» Усё мацней апаноўвала яго варожасць. Дзёрся ён праз кустоўе, праз канавы, аж пакуль не знік з людскіх вачэй. І толькі тады супакоіўся.

Вось і месца знаёмае. Тое, ды нібы не. Няма нідзе ружовага валуна. І так, і гэтак абышоў Раман – няма! Стаіць затое тырчма вялізны зялёны камень. І на ім – такая самая вязь літараў. Азірнуўся хлопец: а наўкол цэлы россып камянёў. «Ці не паганскія тут могілкі! – дайшло яму. – І пад каторым з камянёў той скарб?»

І тут бачыць: бяжыць ягоны сабака з двума чорнымі сучкамі. Так далёка, што ледзь ужо бачна. Кінуўся Раман за сабакам і натрапіў на той самы ружовы валун. Пачаў хлопец падкопвацца. З'явіліся з-пад зямлі чатыры каменныя слупкі. Змянілася зямля жоўтай глінай.

Стаміўся шукальнік. Накапаеш тым шуфлікам няшмат, а рукі-ногі ўжо не слухаюцца. Дахаты трэба. Толькі не хочацца... Сядзеў бы на валуне ды сядзеў. Спакойна так, добра... Аніякіх табе турбот.

Ну, ды прымусіў Раман сябе ўзняцца. Гукнуў сабаку. А таго і не чуваць, і не відаць. Свістаў хлопец, свістаў, думаў, адзін ужо дахаты пойдзе. Толькі прымчаў сабака. Вочы шалёныя, ад гаспадара адбіваецца. Ледзьве ўзяў яго Раман на почапку. Сталі выходзіць з лесу і бачаць: заблукалі. То злева вёска пакажацца, то справа. Ледзь знайшлі сваю сцяжынку.

*(Заканчэнне будзе)*




***(Працяг. Пачатак у № 43, 44)***

Мэты паходу, відаць, не ведалі ні Кейстут, ні Любарт. За 15 дзён князь наведаў 15 гарадоў. Даваў адпачынак войску і сам успамінаў баявое юнацтва. У канцы лета 1362 года ў Луцку Альгерд і Любарт правялі агляд баявых дружын і бліжэй да першага верасня рушылі ў Любар, што за 27 км ад Снівады.

Чаму менавіта 1 верасня?

Бітва на Сініх Водах (Снівадзе) саслужыла выдатную ролю пры пабоішчы і перамозе славянскіх сіл над татара-манголамі на Куліковым полі 1380-га. Там будуць і шэсць палкоў, дзве рукі – Андрэй і Дзімітрый Альгердавічы, будзе тая «чарапаха», якая і хавала воінаў ад стрэл войска Дзімітрыя Данскога – гэта ўсё распрацавана ў ваенай справе князя Альгерда. І калі бітва на Куліковым полі адбылася 8 верасня, у дзень Багародзіцы (па старым стылі), дык на Уланавым полі мусілі чакаць татарскага войска цэлых 15 дзён! Хіба гэта выпадкова? Не без уліку Альгердавых ваенных разлікаў?

...Вінніца, якая была вызвалена ў 1362 г., святкуе Дзень горада 15 верасня, аддаючы даніну павагі беларускаму народу, князю Альгерду. Але тым не менш усё ж ёсць і застаецца сутнасць *Яго вялікасці пытання*!

Я дазваляю сабе паразважаць.

## *Любар – стратэгічны горад 1362 года*

Сённяшні Любар – раённы цэнтр Жытомірскай вобласці. Невялікі горад, размешчаны на маляўнічай рэчцы Случ. У 2006 г., увосень, адзначыў сваё 680-годдзе. Ёсць старажытныя будынкі, захаваўся кафедральны сабор, ад 5 падземных хадоў якога мясцовыя жыхары расказваюць легенды.

У 1362 г. Любар быў рэзідэнцыяй Альгерда і месцам дыслакацыі ягонага войска. Тут адбывалася падрыхтоўка да разгрому Залатой Арды, тут вырашаўся лёс многіх народаў. За высокімі сценамі замка і ў прысутнасці брата Любарта Альгерд пачуваўся ў бяспецы... Зразумела, ён ні дня не мог не думаць пра будучую грандыёзную бітву на рацэ Снівадзе, тую падкову, дзе павінны стаяць Карыятавічы – на стромкіх адхонах ракі. Агледзеў скалістыя берагі рэчкі Баціжок (Лозна). Гэтыя мясціны яму спадабаліся, яны падоўжылі лінію абароны да 10 вёрстаў. Тут ён «паставіў» сына Уладзіміра, там і адбыўся першы бой, бо тут пралягаў Чорны шлях, па якім ішлі татары з поўдня. Перад боем наведаў на Княжай гары стапу Маці Божай на камені.

Вяртаючыся ў Любар, Альгерд па дарозе прыдумаў такі тактычны ход, які дагэтуль з'яўляецца загадкай для навукоўцаў: ён падзяліў войска на два рукавы – Карыятавічаў накіраваў з Любара на Сальніцу, на Чорны шлях, а Уладзіміра да шляху Бярдзічаў–Хмельнік, каб на скрыжаванні павярнуць на Уланаў. Пры сустрэчы двух войскаў з розных бакоў сярод татараў пачнецца паніка, і яны ў спешцы пакінуць межы, не ўступаючы ў бой.

Але і гэта яшчэ не ўсё...

Альгерд з войскам Уладзіміра накіроўвае ў бок Белай Царквы «несапраўдны» атрад, як бы дэзінфарматараў. Тыя павінны былі, відаць, у Тарговіцы на рацэ Сінюсе паваяваць вартавы атрад і такім чынам таксама заблытаць ворага.

***(Заканчэнне на стар. 8)***




*Схема бітвы, складзеная аўтарам*



*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

...Як разумець (міфалагічнае покрыва!) запіс у Ніканаўскім летапісе, што «Того же лета Литва, взявшая Коршеву, много лиха сотворишеся князь великий литовский Ольгерд Гедиминович Синюю воду и Белобережие повоева». Відаць, горад Камянец на Валыні, праз які ішло войска Альгерда, наводзячы страх на мясцовае насельніцтва (татарскае), летапісцы ўпішуць як Каршэву (гл. вышэй), а Сніваду ўпішуць як Сінія воды ў «Оповідь про Поділля» толькі ў 1420 годзе. А Стрыйкоўскі ўпіша, што шлях нібыта ішоў праз Канеў і Черкасы. Бой адбыўся як сустрэчны ў Тарговіцы.

На гэтым і заканчваецца тарговіцкая эпапея на Сінюсе ў Дзікім полі Кіраваградскай вобласці, якая выклікала ў сучаснікаў палкія спрэчкі накошт месца бітвы ў 1362 г.

А тым часам Уладзімір дайшоў да скрыжавання – мяжы Жытомірскай і Вінніцкай абласцей – павярнуў на цяперашні Уланаў, перайшоў Сніваду, шырынёй 3 м і глыбінёй да метра, накіраваўся займаць баявыя пазіцыі паміж Воранаўцамі і Лознай... Адзначым, што вартавы атрад (ва Уланаве) знаходзіўся ў 17 км ад мяжы Валыні.

Больш за ўсё пацярпелі воіны Карыятавічаў. Ім давялося бараніць тэрыторыю ад вартавога атрада татараў па рацэ Снівада, там, дзе яна ўтварае падкову. У любы момант, здавалася ім, маглі нечакана з'явіцца татары. Татары з'явіліся ў сярэдзіне верасня. Альгерд асабіста кіраваў падрыхтоўкай і расстаноўкай войска. Шлях ад Любара ва Уланаў ён перадолдаваў лёгка.

Так незаўважна, у падрыхтоўчых клопатах, прамінулі 15 дзён цёплай восені, «бабінага лета» і Новага года паводле татачаснага стылю.

Ішлі татары з Тарговіцы, з Крыма, з Перакопа ці з-за Дуная – Альгерда гэтая акалічнасць не турбавала. Ён усё прадумаў, і войска яму верыла, як і ён верыў у перамогу.

Абраз Вострабрамскай Божай Маці, якую вазіў з сабою Альгерд, захоўваецца ў старажытным манастыры ў Вільні як сведка ўсіх ягоных перамог. Копію іконы, асвечаную праваслаўнай царквою ў Мінску, аўтар падараваў царкве ва Уланаве у памяць далёкіх падзей.



*Удзельнікі вечарыны, прысвечанай князю Альгерду: (справа налева) Ул. Цімашэнка, Л. Савік, М. Купава, В. Іпатава, Я. Фядзюшын, М. Ліннік (верасень 2007 г.)*

***

Гістарычнае значэнне гэтай бітвы цяжка пераацаніць. Вялікі князь Альгерд шмат зрабіў для свайго народа. Ён вызваляў і іншыя славянскія народы, але ніколі не быў акупантам, як спрабуе давесці гэта сёй-той... Кіеўская Русь, як бачым, была вызвалена ў 1362 г.!

Яго імя павінна быць занесена ў спіс Вялікіх людзей ЮНЕСКО. Нельга забываца на воінаў ВКЛ, якія загінулі, і на тых воінаў, што па волі лёсу апынуліся на другім баку, – воінаў Залатой Арды...

Мы павінны сабрацца ля магіл воінаў, што загінулі на Уланавым полі, пакланіцца, аддаючы даніну павагі...

*Значыць, 15 верасня 2007 года – 645 гадоў той перамозе. У Беларусі, на думку аўтара, гэту перамогу трэба святкаваць 21 верасня, у дзень Багародзіцы, што не парушыць храналогію бітвы. Павага – рэч вельмі важная...*

**P.S:** ***Наша інфармацыя мае важнае значэнне для гістарычнай навукі. У артыкуле мы закранулі паход кн. Альгерда. Ёсць інфармацыя ў НАН Беларусі пра крыніцы і гісторыка-геаграфічныя аспект. Ёсць шматлікія публікацыі гэтай тэмы і на Украіне. Звесткі пра паход аўтар лічыць неабходным перадаць у Пасольствы Украіны, Літвы, Польшчы, Расіі, Татарстана, Беларускім праваслаўнай і каталіцкай царкве, муфцію татарскай дыяспары і ў Канаду, якая аказала вялікую інфармацыйную дапамогу.***

***Уладзімір ЦІМАШЭНКА, старшыня Таварыства імя князя Альгерда ў Беларусі***

**Ад рэдакцыі.** ***Шаноўны чытач «КГ». Вы, прачытаўшы гэты матэрыял, можаце адразу ж зразумець, колькі ў ім цікавага, доследнага, але ў многім і, мякка кажучы, адвольнага. Тым не менш (з нашымі рэдакцыйнымі праўкамі) змяшчаем гэтае доследнае слова, каб і Вы, шаноўныя чытачы, разам з намі далучыліся да ўсведамлення таго, пра што вышэй напісана, – пра адзін з эпізодаў нашай няпростай гісторыі. Зразумела, Вы можаце мець і свой пункт гледжання, дык і напішыце пра гэта.***

З бібліятэкі «КГ»

# «Любіць бы вечна...»

***Так называецца новая кніга паэта Алеся Пісьмянкова, але якую ён склаў не сам і не сам аднёс яе ў мінскае выдавецтва «Дыксэнд», што нядаўна і выдала яе. 50 вершаў творцы, які, не дажыўшы да 50-годдзя, пакінуў нас, адабраў, пераклаў на ўкраінскую мову і іх, двухмоўныя, пад адной вокладкай блаславіў у свет ягоны сябра, украінска-беларускі паэт Валеры Стралко.***

***У кароценькай, але ёмістай прадмоўцы вядомы паэт Генадзь Бураўкін зазначае, што Алесь Пісьмянкоў быў адным з самых светлых і яскравых асоб у беларускай паэзіі апошняга часу, у каго была сялянская грунтоўнасць і вясёлая хітрынка, а таксама мудрая недасказанасць, за што яго ахвотна друкавалі ўсе часопісы, а крытыкі прарочылі яму «лаўры жывога класіка». Аўтар прадмовы высока адзначае і працу перакладчыка.***

***Прапануем увазе чытачоў тры вершы Алеся Пісьмянкова на беларускай і ўкраінскай мовах.***

***Алесь ПІСЬМЯНКОЎ***

## Замест аўтабіяграфіі

*Мой прадзед быў скрыпач –*
*Ён выкрасаў і смех, і плач.*
*А дзед у пчолах ведаў толк,*
*Як сёння рэдка знае хто.*
*І ў бацькі рэдкі дар –*
*Сваёй зямлі ён гаспадар.*
*А я – ні граць, ані араць,*
*Хоць крычма закрычы!*
*Каб існаванне апраўдаць,*
*Я вершы крэмзаю ўначы.*
*Я расказаць хачу пра род,*
*Пра вечны клопат на сяўбе...*
*Пра іх пішу каторы год,*
*Пра іх і пра сябе.*

## Замість автобіографії

*Мій прадід був скрипаль –*
*Він викресав і сміх, і жаль,*
*А дід у бджолах тямив смак,*
*Навряд чи нині вміють так.*
*І батько знаний у селі –*
*Господар на своїй землі.*
*А я – ні грати, ні орать,*
*Хоч пробоньки кричи!*
*Щоб існуванню сенс надать,*
*Я вірші дряпаю вночі.*
*Про свій повідать хочу рід,*
*Що вік у клопотах земних...*
*Пишу про предків котрий рік –*
*Про себе і про них.*

## Прызнанне

*Не трызніць душа*
*гаражамі.*
*Дзіўна,*
*што ў горадзе вёскай жыву.*
*Страшна,*
*што сын-гараджанін*
*Босы баіцца*
*ступіць на траву.*

## Признання

*Марить не хоче душа*
*гаражами.*
*Дивно,*
*що в місті селом я живу.*
*Страшно,*
*що син-горожанин*
*Босий боїться*
*ступить на траву.*

***

*Я прыеду, я вярнуся,*
*Я прыйду да плыткай рэчкі,*
*Дзе самотны белы бусел*
*Думу думае аб вечным.*

*Як і год, і два, і дзесяць,*
*Мо яшчэ з сярэдневечча,*
*Ён вартуе рэчку Бесядзь,*
*Думу думае аб вечным.*

*Я вярнуся, пакланюся*
*І яму, і нашай рэчцы,*
*Я з ім ціха пажуруся*
*І падумаю аб вечным.*

*Пакланюся, пажуруся*
*І ў тумане знікну заўтра...*
*Белы бусел, белы бусел –*
*Мой задумлівы сааўтар.*

***

*Я приїду, я вернуся,*
*До прудкої вийду річки,*
*Де самотній білий бусол*
*Думу думає про вічне.*

*Як і рік, і два, і десять,*
*Може ще з середньовіччя,*
*Він вартує річку Бесядь,*
*Думу думає про вічне.*

*Я вернуся, поклонюся*
*І йому, і нашій річці.*
*Я з ним тихо пожурюся*
*І подумаю про вічне.*

*Поклонюся, пожурюся*
*І в тумані зникну завтра...*
*Білий бусол, білий бусол –*
*Мій задумливий співавтор.*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГЛІНСКАЯ** (Буатова) Тэафілія Багумілаа (каля 1762, в. Косічы Навагрудскага раёна – 1799) – польская пісьменніца. Стварыла апісальную паэму «Шчорсы» (1784), віншавальныя вершы, займалася перакладамі. Працавала ў накірунку класіцыстычнай літаратуры з беларускімі асаблівасцямі.

**ГЛІНСКІ** Антон Юзаф (1817, маёнтак Шчорсы каля Навагрудка – 1866) – пісьменнік, супрацоўнік бібліятэкі Храптовічаў, быў рэдактарам «Виленских губернских ведомостей», знаўся з Ул. Сыракомлем, В. Каратынскім, А. Кіркорам. Аўтар «Польскага казачніка» (т. 1–4, 1853) – зборніка апрацаваных беларускіх казак, анекдотаў, апаявданняў з ваколіц Навагрудка. На сюжэт казкі пра папараць-кветку Ф. Багушэвіч напісаў верш «Хцівец і скарб на святога Яна» (1887). Названы зборнік перакладаўся на розныя мовы.

**ГЛІНСКІХ МЯЦЕЖ** 1508 года – выступленне групоўкі феадалаў ВКЛ на чале з М. Глінскім супраць Радзівілаў і інш. Глінскія выступалі за поўную незалежнасць ВКЛ, вялі ўзброеную барацьбу на паўднёвых і цэнтральных беларускіх землях, не дабіўшыся поспеху, уцяклі ў Маскву. Ва ўмовах вайны 1507–1508 гг. Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ гэты мяцеж быў выгадна выкарыстаны Васілём III.

**ГЛОГЕР** Зыгмунт (1845–1910) – польскі археолаг, этнограф. Даследаваў помнікі археалогіі каменнага і бронзавага вякоў на Беларусі (Гродзеншчына і Брэстчына). Аўтар прац па беларускай драўлянай архітэктуры, пра побыт, вераванні і абрады беларускага народа. Сабраў значную калекцыю археалагічных і этнаграфічных матэрыялаў, бібліятэку, унікальную зборку, дзе захоўваліся беларускія матэрыялы. У створанай ім «Старапольскай энцыклапедыі» (тт. 1–4, 1900–1903) шмат публікацый пра Беларусь.

**ГЛУСК** – гарадскі пасёлак, цэнтр Глускага раёна, на рацэ Пціч. За 170 км ад Магілёва, вузел аўтадарог на Бабруйск, Старыя Дарогі, Любань, Акцябрскі. У 1995 г. там было 8,5 тысяч насельнікаў. Упершыню ўпамінаецца ў сярэдзіне XV ст. Тады альбо ў наступнае стагоддзе, мабыць, быў пабудаваны і мясцовы замак, які супрацьстаяў крымскім татарам і казацкім паходам з Украіны. Моцна пацярпеў і ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай ў 1654–1667 гг. У Глуску ёсць прадпрыемствы мясцовай, харчовай, дрэваапрацоўчай прамысловасці.

**ГЛЫБАЎ** – археалагічныя помнікі (гарадзішча мілаградскай культуры і 2 курганныя могільнікі дрыгавічоў) каля в. Глыбаў Рэчыцкага раёна. На гарадзішчы выяўлены рэшткі 2 жытлаў і 2 гаспадарчых ям, знойдзены каменныя прылады працы, фрагменты ляпной керамікі; на могільніках пахавальны абрад – трупапалажэнне ў ямах пад насыпам, знойдзены бронзавыя ўпрыгажэнні, фрагменты ганчарнага посуду.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасnай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары дописаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 29.11.2007. Газета надрукавана ўдрукарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1438. Тыраж 1270 асобнікаў.